# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Прафэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых БССР

г. Менск, Пляц Волі, Дом Працы.
Тэл. Старшыні ЦП № 4-08
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы ЦП, інфармацыя, адказы на запытаньні і крытычна-дыскусыйны матар'ял з месц).

№ 2 (20) || 15 ЛЮТАГА 1929 году || № 2 (20)




## ЗЬМЕСТ.

### А. Пастановы Прэзыдыуму ЦП.


1. Плян работы ЦП на 1929 г.—Асноўныя заданьні плянавае работы (Зацьвердж. Прэзыд., прат. № 4, ад 30-I—29 г.).

2. Каляндарны плян пытаньняў, разглядваемых на Пленумах і Прэзыдыуме ЦП на 1929 г. (Зацьвердж. Прэз., прат. № 4, ад 30-I—29 г.).

3. Пастанова Прэзыдыуму ЦП аб удзеле Саюзу ў вясеньняй пасеўнай кампаніі (Прат. № 4, ад 30-I–29 г.).


## Плян работы ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых на 1929 год.

*(Асноўныя заданьні плянавае работы).*

### 3 тысячы батракоў і сельгаслесрабочых у партыю.

1. Садзейнічаць КП(б)Б у рабоце па ўцягненьню батрацтва ў шэрагі партыі праз клясавае выхаваньне батрацкага актыву, паставіўшы перад саюзнымі арганізацыямі мэту падрыхтаваць да ўступленьня ў партыю ня менш як 1000 батракоў.

2. Акрамя батракоў ня менш як 2000 чалавек рабочых і работніц саўгасаў, пралетарскае часткі лясьнікоў, лесарубаў і іншых груп сельгаслесрабочых таксама падрыхтаваць да ўступленьня ў КП(б)Б.

### 6 тысяч рабоча-батрацкай моладзі ў Камсамол.

3. Садзейнічаць Камсамолу ў рабоце на ўцягненьню ў шэрагі ЛКСМБ рабоча-батрацкае моладзі праз клясавае выхаваньне апошняе, паставіўшы мэту падрыхтаваць да ўступленьня ў Камсамол ня менш, як 6000 чалавек рабоча-батрацкае моладзі, у тым ліку ня менш як 2000 дзяўчат.

### 5 тысяч батракоў у Саветы.

4. Арганізаваць шырокі ўдзел усіх груп сельгаслесрабочых і спэцыялістых у перавыбарчай кампаніі саветаў і дабіцца ўцягненьня ў саветы ў час перавыбараў ня менш, як 5000 сельгаслесрабочых з такім разьлікам, каб у кожны сельсавет у сярэднім было абрана 3 сельгаслесрабочыя, з іх—1 батрак, 1 батрачка і адзін ад іншых груп сельгаслесрабочых.

5. Арганізаваць удзел сельгаслесрабочых у перавыбарах ворганаў сельскагаспадарчае і спажывецкае каапэрацыі і дабіцца, каб у кожнае праўленьне правесьці ня менш 1 сельгаслесрабочага і

ня менш аднаго ў рэўкамісію. Уцягнуць на працягу года ўсіх членаў саюзу ў члены спажывецкае каапэрацыі, дабіўшыся шэрагу льгот для батракоў пры ўступленьні апошніх у пайшчыкі каапэрацыі.

**10 тысяч батракоў, батрачак і пастухоў у саюз.**

6. Ня менш як 10.000 батракоў, батрачак і пастухоў уцягнуць у шэрагі саюзу.

**3 тысячы сельгаслесрабочых і батракоў на кіруючую работу.**

7. Вылучыць на працягу года на платную кіруючую работу ў саюзных, савецкіх, каапэрацыйных, грамадзкіх і гаспадарчых органах ня менш 3000 сельгаслесрабочых.

8. Правесьці абсьледваньне фінансавае работы ўва ўсіх Акраддзяленьнях і па аднаму райкому ў кожнай акрузе, а па Менскай акрузе ў 2-х райкомах.

9. Палепшыць абслугоўваньне запатрабаваньняў членаў саюзу ў штодзённай саюзнай рабоце.

**60 тысяч працумоў на батрацтва.**

10. Павялічыць колькасьць працоўных умоў на 15 тысяч у параўнаньні з мінулым годам, давёўшы колькасьць працумоў да 60 тысяч. Павысіць зарплату батракоў на 20 проц. у параўнаньні з арыентыровачнымі стаўкамі 28 года. Праверыць на працягу года праз сельрабачкомы, с/упаўнаважаных, райкомы, акраддзяленьні і інспэкцыі працы і непасрэдна работнікамі ЦП выконваемасьць усіх заключаных дагавораў, а таксама праверыць прадоўжнасьць рабочага дню батракоў у 15-20 кулацкіх гаспадарках па кожнай акрузе.

11. Ахапіць сацстрахаваньнем ня менш як 50 проц. батракоў і пастухоў, ахопленых працоўнымі ўмовамі (г. зн. 30 тысяч).

12. У адпаведнасьці з пастановамі IX Усебеларускага Зьезду Саюзу праводзіць работу па падцягваньню зарплаты адстаўшых груп сельгаслесрабочых і спэцыялістых сельскае і лясное гаспадаркі. Правесьці праверку выконваемасьці ўсіх генэральных дагавораў, заключаных ЦП саюзу.

**Уся ўвага павышэньню ўраджайнасьці і вытворчасьці.**

13. Усімі сіламі і сродкамі як саюзных органаў, так і кожнага члена ў паасобку, асабліва з боку аграномаў, садзейнічаць павышэньню ўраджайнасьці ў саўгасах на 20 проц., калгасах на 15 проц., у сялянскіх гаспадарках на 10 проц., пачынаючы. гэту работу з вясеньняе пасеўнае кампаніі 29 года.

14. Па кіраўніцтву вытворчымі нарадамі дабіцца, каб апошнія падпарадкавалі сваю практычную работу выкананьню наступных канкрэтных задач:

а) *У саўгасах:* Дабіцца павышэньня ураджайнасьці ў гэтым годзе на 20 проц.: павялічэньня прыбытковасьці гаспадаркі на 10 проц.; зьніжэньня сабекаштоўнасьці прадукцыі на 7 проц.; арганізацыі працы ў саўгасах на падставе зьдзельнае аплаты і рацыянальнага скарыстаньня рабочае сілы; дабіцца, каб ня менш як 50 проц. рабочых унесьлі свае прапановы па пытаньнях вытворчасьці і наладзіць вучот гэтых прапаноў. Арганізаваць пасылку на экскурсіі і вытворчыя камандыроўкі лепшых удзельнікаў вытворчых нарад, выканаўшых плянавыя заданьні.

б) *У лясьніцтвах:* Скараціць ня менш, як на 50 проц. самавольныя парубкі; забясьпечыць 100 проц. захаваньне маладняка і лесакультурных насаджэньняў ад шкодніцтва жывёлы; сабраць патрэбную колькасьць дабраякаснага насеньня; прыцягнуць сялянства на грамадзкіх падставах да пасадкі і аховы лесу.

в) *На лесараспрацоўках і сплаве:* Арганізаваць правільнае рэгуляваньне сэзоннае рабочае сілы, каб на лесараспрацоўках і сплаве было занята ня менш, як 30 проц. батракоў і беспрацоўных членаў саюзу і 40 проц. беднаты; арганізаваць работу ў арцелях на падставе разьдзяленьня працы, а таксама рацыяналізаваць работы па скатцы і вязцы; забясьпечыць своечасовае, у адпаведнасьці з заключанымі тарыфнымі згодамі, пабудаваньне жыльлёвых памяшканьняў (курэняў і баракаў) з вокнамі і чыгуннымі альбо цэглянымі печамі.

г) *На мэліарацыйных і тарфяных распрацоўках:* Павысіць вытворчасьць працы на 15-20 проц., забясьпечыць

падрыхтоўку мясцовае кваліфікаванае рабочае сілы, стварыць умовы, каб кожны мясцовы рабочы, асабліва батрак, працуючы ў арцелях, стаў на працягу сэзону кваліфікаваным рабочым; дабіцца найменшае затраты часу і рабочае сілы пры перасоўцы машын у другі канец кар'еру, рацыяналізаваць працэс пагрузкі торфу; праз спэцыяльныя пасяджэньні вытворчых нарад наладзіць вучот вопыту кваліфікаваных рабочых.

д) *Вытворчыя нарады спэцыялістых:* Мерапрыемствы па павышэньню ўраджайнасьці ў саўгасах, калгасах і сялянскіх гаспадарках; формы і мэтады агрыкультурнае работы саўгасаў і калгасаў сярод бядняцка-серадняцкага насельніцтва, формы і мэтады работы па агранамізацыі насельніцтва, скарыстаньне ўгнаеньня, мерапрыемствы па пашырэньню і палепшаньню сенажацяў, павышэньне прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі і кармавое пытаньне, прымяненьне вынікаў дасьледваньня (Аграсэкцыя); калектывізацыя і грамадзкія формы с/гаспадаркі; пытаньні эфэкцыйнасьці землеўпарадкаваньня, спосабы і парадак землеўпарадкаваўчага праэктаваньня, прапрацоўка вытворчых і пэрспэкцыйных плянаў; мэтады скарыстаньня адмэліарыраваных плошчаў, рацыяналізацыя працэсаў землеўпарадкаваньня і мэліарацыі (Земсэкцыя). Рацыяналізацыя працэсаў лесаўпарадкаваньня і лесанарыхтоўчых работ, арганізацыя працы на лесапрацоўках і сплаве, меры па палепшаньню аховы лясоў (Лессэкцыя). Групавыя даклады аграномаў, каморнікаў, мэліаратараў і лесаводаў на рабочых сходах у горадох.

е) *Эканомкамісіі пры ўстановах:* Значнае скарачэньне тэрмінаў адказаў на заявы грамадзян і на запросы і заданьні розных устаноў, арганізацыя хуткага прыёму наведвальнікаў, скарачэньне адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў. Арганізацыя вучоту прапаноў па палепшаньню работы апаратаў; арганізацыя пераклічкі паміж эканом. камісіямі вышэйстаячых і ніжэйстаячых устаноў (напрыклад, НКЗ—АКРЗА, Белсельсаюз—Акрсельсаюз, Лесзаг—Інспэктарыят Лясоў, Лесбел—Аддзяленьне, або вучастак) у мэтах праверкі сваечасовасьці выкананьня ўзаемных абавязкаў гэтых устаноў.

**Перападрыхтаваць 700 чал. кваліфікаваных рабочых і спэцыялістых.**

15. У галіне падрыхтоўкі кадру кваліфікаваных рабочых і спэцыялістых сельскае і лясное гаспадаркі супольна з гаспадарчымі ўстановамі арганізаваць наступныя курсы:

а) для кіраўнікоў саўгасаў;
б) „ старшых рабочых саўгасаў;
в) курсы аграпрацаўнікоў;
г) „ аграномаў калгасьнікаў;
д) „ землеўпарадкаваццеляў;
е) „ трактарыстаў;
ж) „ жывелаводаў і сыравараў;
з) „ лясьнічых;
і) „ прарабаў лесапрацовак;
к) „ дзесятнікаў;
л) „ падсочнікаў па лесахіму;
м) „ культуртэхнікаў-культнаглядчыкаў.

Прапусьціць праз усе гэтыя курсы 600—700 чалавек.

16. У кожнай акрузе арганізаваць каротка-тэрміновыя курсы грамадзкіх пастухоў і, як вопыт, у адным раёне кожнае акругі правесьці курсы-нарады грамадзкіх пастухоў.

17. У кожным саўгасе, лясьніцтве, на торфапрацоўках і сплаве правесьці аднодасовыя, масавыя кароткатэрміновыя, 1—2 тыдні, вытворчыя курсы, ахопліваючыя ўсіх рабочых, працуючых на гэтых прадпрыемствах.

**Падрыхтаваць 1000 батракоў і сельгаслесрабочых у рабфакі і іншыя школы.**

18. Арганізаваць батрацкія курсы па падрыхтоўцы ў рабфакі з разьлікам на 100 чалавек, акрамя таго за культсродкі рабачкомаў падрыхтаваць да ўступленьня ў рабфакі па аднаму батраку, с/г рабочаму, лясьніку і лесарубу на кожны адпаведны рабачком. Павысіць процант да пасылкі членаў саюзу і дзяцей спэцыялістых непасрэдна ў ВНУ і тэхнікумы.

19. Правесьці 2 курсаў прафактыву, адны для рабачкомаў саўгасаў і адны для рабачкомаў лясьніцтв.

20. Арганізаваць кароткатэрміновыя курсы радыё-інструктароў (40-50 чалавек) і масавыя раённыя радыё-курсы ў кожным раёне.

21. Кожны рабачком павінен падрыхтаваць па аднаму члену саюзу з рабочых і батракоў да ўступленьня ў вайсковыя школы.

**Ня менш 20 тысяч падпішчыкаў на „Бел. Батрак."**

22. Пашырыць падпіску на газэту „Беларускі Батрак", каб было ня менш, як 20.000 гадавых падпішчыкаў.

**Ніводнага няпісьменнага ў шэрагах саюзу.**

23. Ахапіць лікпунктамі і індывідуальным навучаньнем усіх няпісьменных і малапісьменных членаў прафсаюзу з разьлікам, каб на працягу году канчаткова зьліквідаваць няпісьменнасьць сярод членаў саюзу.

**Пабудаваць 7 дамоў батрака і 6 клюбаў у саўгасах.**

24. Пабудаваць у кожнай акрузе па 1 дому батрака і 6 клюбаў у саўгасах.

**Ваенізацыя, спорт і мастацтва—сельска-гаспадарчаму пралетарыяту.**

25. Колькасьць радыё-гучна-гамонячых установак давесьці ў сярэднім ня менш, як да 50 на кожную акругу, устанаўліваючы радыё-ўстаноўкі пераважна ў чырвоных кутках пры сельрабачкомах. У кожным лясьніцтве паставіць ня менш як адзін 2-х лямпавы прыёмнік.

26. Арганізаваць пры кожнай радыё-ўстаноўцы рэгулярнае слуханьне штотыднёвае радыё-газэты „Беларускі Батрак".

27. У кожнай акрузе арганізаваць па аднэй культперасоўцы з кіно, радыё, бібліятэкай, паказальнымі куткамі, а таксама арганізаваць 3 маторна-рачныя культперасоўкі для абслугоўваньня рабочых на сплаве.

28. Акрамя культперасовак у кожнай акрузе колькасьць кіно-перасовак давесьці да 2-х.

29. Забясьпечыць стрэльбамі па 50 чырвоных куткоў у сярэднім на кожную акругу і набыць для рабачкомаў 1500 пар лыж.

30. За кошт разьездных сродкаў ЦП, Акраддзяленьняў і РК набыць 45 вэлёсыпэдаў для разьездаў у рабачкомы і 55 велёсыпэдаў за сродкі культфонду для спортгурткоў.

31. Вандроўным тэатрам абслужыць на працягу года ўсе рабачкомы Віцебскае, Полацкае і Магілеўскае акруг.

32. Арганізаваць у кожнай акрузе па аднаму вясковаму музычнаму аркестру (гармонь, скрыпка, цымбалы, бубен і інш.) і па аднаму струннаму аркестру. У Менску арганізаваць духавы аркестр.

33. Выдаць літаратуру па пытаньнях саюзнае работы на белмове—35 др. лістоў, на яўрэйскай мове—10 др. лістоў, на польскай—5 др. лістоў, а ўсяго—50 др. лістоў.

34. Арганізаваць 15 дзіцячых ясьляў і 50 пляцовак. На курорты паслаць 150 чалавек і ў дамы адпачынку 1000 чал.

35. Уцягнуць у практычную работу ЦП усіх членаў і кандыдатаў ЦП, і ўцягнуць усіх членаў саюзу ў абгаварэньне асноўных пытаньняў, разглядаемых на Прэзыдыуме і Пленумах ЦП.

36. Райкомам будаваць свае пляны ў напрамку інструктаваньня і дапамогі рабачкомаў у выкананьні пляну і дырэктыў ЦП і АПС. Акраддзяленьні—у напрамку праверкі выкананьня пляну і дырэктыў ЦП.

37. Усю работу праводзіць пад знакам самае шырокае крытыкі і самакрытыкі, выкарыстоўваючы для гэтага „Беларускі Батрак", насьценныя газэты і ўсе формы масавае саюзнае работы (пасяджэньні, сходы, канфэрэнцыі, вытворчыя нарады і інш.).

# КАЛЯНДАРНЫ ПЛЯН

пытаньняў, разглядаемых на Пленумах і Прэзыдыуме ЦП саюзу Сельгаслесрабочых на 1929 год, зацьверджаны Прэзыдыумам.

Прат. № 4, ад 30/I—1929 году.

# КАЛЯНДАРНЫ ПЛЯН

## пытаньняў, разглядаемых на Пленумах і Прэзыдыуме ЦП саюзу Сельгаслесрабочых на 1929 год, зацьверджаны Прэзыдыумам.

**Прат. № 4, ад 30/I—1929 году.**

| №№ па пар. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Пленумах і Прэзыдыуме ЦП саюзу на 1929 год | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Пытаньне прапрацоўваецца ўва ўсіх рабачкомах і на агульных сходах членаў саюзу | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Якога раёну | Колькі рабачк. у раёне | У які тэрмін |
| | **2-га Студзеня (серада)** **2-гі Пленум ЦП саюзу** | | | | | |
| 1 | Вынікі і рашэньні VI Усесаюзнага Зьезду н/саюзу і VIII Міжсаюзнага Зьезду | Арг. Аддз. | **Вайтэнкаў** | | | |
| 2 | Грунтоўныя прынцыпы пляну работы ЦП саюзу на 1929 год. | Арг. Аддз., АТЭ. К. Аддз. | **Вайтэнкаў** | | | |
| 3 | Грунтоўныя прынцыпы саюзнага каштарысу на 1929 год. | Арг. Аддз. Скарбнік | **Аскерка** | | | |
| 4 | Даклады з месц членаў ЦП аб удзеле н/саюзу на мясцох у перавыбарчай кампаніі сельсаветаў | Рабачкомы, РК. Ар. Аддз. | Усе чл. і канд. ЦП і Рэв. Кам. | | | |
| 5 | Даклад Лесбелу — вытворча-пэрспэкцыйны 5-ці гадовы плян | А Т Э | **Хандогін** | | | |
| 6 | Арганізацыйныя пытаньні | Арг. Аддзел | **Вайтэнкаў** | | | |
| | **9-га Студзеня (серада)** **Прэзыдыум ЦП** | | | | | |
| 1 | Аб перавыбарах сельсаветаў | Арг. Аддзел | **Вайтэнкаў** | | | |
| 2 | Аб радыё-курсах | Культ. Аддзел | **Замылка** | | | |
| | **30-га Студзеня (серада)** | | | | | |
| 1 | Зацьверджаньне пляну работ ЦП на 1929 г. | Арг. Аддз., Культ. Аддз. і АТЭ | **Вайтэнкаў** | | | |
| 2 | Зацьверджаньне каштарысу на 1929 год | Арг. Аддз. Скарбнік | **Аскерка** | | | |
| 3 | Аб вясеньняй пасеўнай кампаніі | А Т Э | **Эльперын** | | | |
| 4 | Аб скліканьні 4-х курсаў прафактыву | Культ. Аддз. | **Замылка** | Бяз выезду | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | Аб скліканьні 4-х курсаў прафактыву | Культ. Аддз. | Замылка | Бяз выезду | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | **20-га Лютага (серада)** | | | | | |
| 1 | Аб удзеле саюзу ў перавыбарах органаў сель-гаспадарчай і спажывецкай каапэрацыі | Арг. Аддзел | **Аскерка** | Бяз выезду | | 7—20 лютага |
| 2 | Работа кіно-перасовак, радыё-ўстановак і тэатру на 1929 год | Культ. Аддзел | **П я с к о** | Койданаўскі раён | 21 | 1—20 лютага |
| 3 | Асноўныя прапановы па калдагавору на саўгасы | А Т Э | **Эльперын** | Капыльскі раён | 20 | 1—20 лютага |
| 4 | Аб культмасавай рабоце сярод спэцыялістых | Культ. Аддз. Сэкцыі | **Замылка** | Бяз выезду | | 1—20 лютата |
| 5 | .......... | | | | | |
| | **13-га Сакавіка (серада)** | | | | | |
| 1 | Аб рабоце вытворчых нарад у саўгасах (у сувязі з пасеўнай кампаніяй), лясьніцтвах і мэлторфраспрацоўках | А Т Э | **Вяжэвіч** | Барысаўскі раён | 34 | 10/II—13/III |
| 2 | Вынікі пасылкі сельгаслесрабочых у навучальныя ўстановы і мерапрыемствы на 1929 год | Культ. Аддз. | **Замылка** | Горацкі раён | 21 | 20/II—13/III |
| 3 | Зацьверджаньне культкаштарысу і прынцыпы яго пабудаваньня | Культ. Аддз. і Скарбнік | **Кохан**—старшыня Аршанск. Аддзял. | Віцебскі раён | 23 | 18/II—13/III |
| 4 | Аб рабоце вытворчых нарад спэцыялістых у сувязі з вясеньняй пасеўнай кампаніяй і падвышэньнем ураджайнасьці | АТЭ і ЦБ сэкцый | **Бушко**—старшыня ЦБ Лессекцыі | Менскі раён і МК г. Менску | 36 | 10/II—13/III |
| 5 | Вынікі працумоўнае кампаніі 1928 г. і дырэктывы на 1929 г. | А Т Э | | Самахвалавіцкі раён | 13 | 25/II—13/III |
| 6 | .......... | | | | | |
| | **3-га Красавіка (серада)** | | | | | |
| 1 | Мерапрыемствы па падрыхтоўцы і ўцягненьню сельгаслесрабочых ў шэрагі КП(б) | Арг. Аддзел | **Горагляд**—старшыня Гомельск. Акраддзял. | Жлобінскі раён, Бабруйск. акругі | 14 | 13/III—3/IV |
| 2 | Мерапрыёмствы па палепшаньню фінансавай работы і фінсправаздачнасьці | Скарбнік | **Хвошч**—старшыня Бабруйскага Акраддзял. | Гомельскае Акраддз. і раён | 30 | 1/III—3/IV |
| 3 | Аб арганізацыі курортна-санаторнага лячэньня, дзіцячых ясьляў і пляцовак | А Т Э | **Шчэмелева**—Адк. Сэкратар ЦП | Пухавіцкі раён, Менскай акругі | 18 | 13/III—3/IV |
| 4 | Аб масавай культпрацы ў летні пэрыяд | Культ. Аддз. | **Жулега**—старшыня Віцебскага Акраддз. | Полацкі раён | 25 | 3/III—3/IV |
| 5 | Практычныя мерапрыёмствы па вылучэньню сельгаслесрабочых у саюзныя, савецкія і гаспадарчыя ўстановы | Арг. Аддзел | Старшыня ЦП саюзу **Вайтэнкаў** | Бабруйскі раён | 26 | 3/III—3/IV |
| 6 | .......... | | | | | |

| №№ па пар. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Пленумах і Прэзыдыуме ЦП саюзу на 1929 год | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Пытаньне прапрацоўваецца ўва ўсіх рабачкомах і на агульных сходах членаў саюзу | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Якога раёну | Колькі рабачк. у раёне | У які тэрмін |
| | **24 Красавіка (серада)** | | | | | |
| 1 | Аб рэгуляваньні росту саюзу | Арг. Аддзел | **Макась**—чл. Прэзыдыуму ЦП | Талачынскі раён., Аршанск. акр. | 21 | 1/IV—24/IV |
| 2 | Аб жылбудаўніцтве ў саўгасах і лясьніцтвах на 1929 год | А Т Э | **Азоліна**—член ЦП рабоч. с/г з вытворчасьці | Чэрвенскі раён | 14 | „ |
| 3 | Аб вытворча-тэхнічнай кваліфікацыі членаў саюзу | Культ. Адд. і АТЭ | **Сідаровіч**, канд. Прэзыд., Старшыня ЦБ Земсэкцыі | Мазырскі раён | 41 | 10/III--24/IV |
| 4 | Пытаньне зарплаты і норм правовых і аховы працы бюджэтных груп | А Т Э | К-т ЦП, старшыня РК **Нэйман** | Аршанскі раён | 32 | 20/III—24/IV |
| 5 | Даклад Трэсту Белторф | АТЭ і Белторф | Дырэктар Белторфу | Віцебскі раён | 23 | 1/IV—24/IV |
| 6 | Аб забесьпячэньні сельгаслесрабочых прамысловымі і сельска-гаспадарчымі прадуктамі | А Т Э | **Вяжэвіч** | Бяз выезду | | |
| 7 | ........................................ | | | | | |
| | **15-га Траўня (серада).** | | | | | |
| 1 | Аб рабоце і дапамозе членам саюзу, абраным у сельсаветы і органы кааперацыі | Арг. Аддзел | **Скараход**—старшыня Мазырскага Акраддз. | Рэчыцкі раён | 24 | 10/IV— 3/V |
| 2 | Аб вытворчай практыцы і стажорстве студэнтаў сельска-гаспадарчых навучальных установ | А Т Э | Член ЦП студэнт **Цітавец** | Менск | | „ |
| 3 | Аб арганізацыі культперасовак | Культ. Аддз. | **Замылка** | Бяз выезду | | „ |
| 4 | Вынікі ліквідацыі няпісьменнасьці дырэктывы на 1929—30 навуч. год | „ | Член ЦП пастушка **Шалай** | Лагойск. РК | 21 | „ |
| 5 | Працдагаворная работа сярод адзіночак дробнай прамысловасьці | А Т Э | Канд. ЦП **Пашэрстнік**, рабочы з вытворч. | Клімавіцкі раён | 19 | „ |
| 6 | ........................................ | | | | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | **29-га Траўня (серада)** | | | | | |
| | **III-ці Пленум ЦП** | | | | | |
| 1 | Даклад НКЗ аб выніках вясеньняй пасеўкампаніі і мерапрыёмствы да васеньняй пасеўкампаніі | Сельгас, група НКЗ і АТЭ | **Адамовіч**. Нам. Наркома і т. **Жызьнеўская**, канд. ЦК саюзу | Па адным раёне кожнай акрузе | | 1/V—29/V |
| 2 | Даклад Аршанскага Акраддзяленьня аб выконваньні пляну ЦП | Аршанск. Акраддз. | т. **Кохан** | Праэкт папярэдне абгаварваецца ў усіх раёнах акругі | | " |
| 3 | Аб будаўніцтве буйных саўгасаў у БССР | Белсельтрэст—АТЭ | т. **Хрысанфаў**—Дырэктар Трэсту | Слуцкі раён | 27 | " |
| 4 | Абслугоўваньне членаў саюзу ў штодзённай саюзнай рабоце | Арг. Аддзел | Чл. ЦП рабочы с/г з вытворч. **Семянюк** | Па аднаму раёну ў кожнай акрузе | | " |
| 5 | Аб распаўсюджваньні друку сярод членаў саюзу | Культ. Аддзел | Чл. ЦП батрак з выт. **Лаўрыновіч** | Па аднаму раёну ў кожнай акрузе | | " |
| 6 | ................................................ | | | | | |
| | **5-га Чэрвеня (серада)** | | | | | |
| | **Прэзыдыум ЦП** | | | | | |
| 1 | Практычныя мерапрыёмствы па ўцягненьню рабоча-батрацкай моладзі ў ЛКСМ | Арг. Аддзел | **Шунько**, работніца с/г з вытворчасьці | Чэчэрскі раён, Гомельск. акр. | 10 | 15/V—5/VI |
| 2 | Аб рабоце вытворчых нарад на лесараспрацоўках і сплаве | А Т Э | Чл. ЦП—старшыня РК т. **Машлюкевіч** | Тураўскі раён, Мазырск. акр. | 19 | " |
| 3 | Аб арганізацыі масавых вытворча-саюзных курсаў у саўгасах, лясьніцтвах і на торфараспрацоўках | Культ. Аддзел | Чл. ЦП работ. с/г з вытворчасьці **Лісоўская** | Магілеўскі раён | 30 | 1/V—5/VI |
| 4 | Аб забесьпячэньні спортгурткоў велёсыпэдамі, стрэльбамі, лыжамі і інш. прыладамі | " | Нам. Заг. Культ. Аддз. **Маслова** | Бяз выезду | | |
| 5 | ................................................ | | | | | |
| | **26-га Чэрвеня (серада)** | | | | | |
| 1 | Аб ходзе працдагаворнай кампаніі і сацстрахаваньня сярод батрацтва і пастухоў | А Т Э | Чл. ЦП батрак з вытворч. **Масарноўскі** | Ліёзьнянскі раён, Віцебск. акр. | 14 | 5/VI—26/VI |
| 2 | Пытаньні масавага культабслугоўваньня батрацтва і пастухоў | Культ. Аддзел | Чл. ЦП батрачка **Сапляк**, працуе у сялян. гаспад. | Пухавіцкі раён, Менскай акругі | 18 | " |
| 3 | Аб правядзеньні справаздач членаў саюзу, абраных у сельсаветы і органы каапэрацыі | Арг. Аддзел | Чл. ЦП **Бобіч** лясьнік з вытворч. | Хойнікскі раён, Гомельск. акр. | 12 | " |
| 4 | Аб ходзе будаўніцтва дамоў батрака і клюбаў | Культ. Аддзел | Чл. ЦП батрач. **Корзун**, працуе па найму | Бяз выезду | | " |
| 5 | ................................................ | | | | | |

| №№ па пар. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Пленумах і Прэзыдыуме ЦП саюзу на 1929 год | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Пытаньне прапрацоўваецца ўва ўсіх рабачкомах і на агульных сходах членаў саюзу | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Якога раёну | Колькі рабачк. у раёне | У які тэрмін |
| | **17-га Ліпеня (серада)** | | | | | |
| 1 | Практыка работы райкомаў | Арг. Аддз. | Старшыня Койданаўск. РК, чл. Рэвкамісіі **Буйко** | Барысаўскі раён, Менскай акр. | 34 | 10/VI—17/VII |
| 2 | Вынікі праверкі працдагавораў і прадоўжнасьць рабочага дню ў кулацкіх гаспадарках | А Т Э | Канд. ЦП батрак **Бекеш**, працуе па найму | | | " |
| 3 | Вынікі разгортваньня дзіцячых ясьляў і пляцовак | А Т Э | Чл. ЦП работніца с/гасу з вытворч. **Іванова** | Глускі раён, Бабруйск. акр. | 14 | " |
| 4 | Аб культабсьледваньні спэцыялістых на палявых работах | Культ. Аддзел і ЦБ сэкцый | Старшыня Земсэкцыі **Сідаровіч** | Лельчыцкі раён, Мазырск. акр. | 10 | " |
| 5 | ........................................ | | | | | |
| | **7-га Жніўня (серада)** | | | | | |
| 1 | Праверка выкананьня каштарысу ЦП | Адк. Скарбнік ЦП | **Аскерка** | Бяз выезду | | 17/VII—7/VIII |
| 2 | Аб рабоце камісій па ахове працы пры рабачкомах | А Т Э | Канд. ЦП рабочы с/гасу з вытворч. **Меліхавец** | Асіпавіцкі раён, Бабруйск. акр. | 17 | " |
| 3 | Вынікі прымяненьня зьдзельшчыны ў саўгасах | А Т Э | **Вяжэвіч** | Чэрвеньскі раён, Менскай акр. | 14 | " |
| 4 | Навучальныя пляны сельска-гаспад. навучальных установ | Культ. Аддзел | **Белоў**, Старшыня Аграсэкцыі | Бяз выезду | | " |
| 5 | ........................................ | | | | | |
| | **28-га Жніўня (серада)** | | | | | |
| 1 | Аб праходжаньні заявак саюзу па зарплаце і правовых нормах бюджэтных груп | А Т Э | **Вяжэвіч** | Бяз выезду | | 7/VIII—28/VIII |
| 2 | Аб рабоце эканомкамісій у ўстановах | А Т Э | **Эльперын** | Мясцкому г. Менску | 4 | " |
| 3 | Вытворчы плян Лесзагу на 1929-30 апэрацыйны год | Лесзаг.—АТЭ | Заг. Лесзагу **Шумілаў** | Рэчыцкі раён | 24 | " |
| 4 | Аб рабоце культкамісій пры рабачкомах і мясцкомах | Культ. Аддзел | **Замылка** | Лепельскі раён | 13 | " |
| 5 | Аб удзеле саюзу ў рабоце каапэрацыйных арганізацый і КСУ | Арг. Аддзел | **Аскерка** | Сеньненскі раён Віцебск. акр. | 14 | |
| 6 | ........................................ | | | | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | **18-га Верасьня (серада)** | | | | | |
| 1 | Аб рабоце рабачкомаў прыватных прадпрыемстваў | Арг. Аддзел | Адк. Сэкратар ЦП **Шчэмелева** | Дрысенскі раён Полацк. акр. | 9 | 28/VIII—18/IX |
| 2 | Прапановы да калдагавароў на рабочых лесараспрацоўках | А Т Э | **Эльперын** | Петрыкаўскі раён | 14 | " |
| 3 | Аб скарыстаньні і рабоце прафактыву прайшоўшага курсы | Арг. Аддзел і Культ. Аддзел | **Хвошч**, старшыня Бабруйск. Акраддз. | Капыльскі раён | 20 | " |
| 4 | Даклад Лясной групы НКЗ аб ахове лясоў і лесаўпарадкаваньні | Лясная група НКЗ | Заг. Лясноў групы **Філатаў** | Гомельскі раён, Гомельск. акр. | 30 | 18/VIII—18/IX |
| 5 | ........................................ | | | | | |
| | **9-га Кастрычніка (серада)** | | | | | |
| 1 | Вытворчы плян Белсельтрэсту на 1930 год | Белсэльтрэст—АТЭ | **Аўчыньнікаў** | Койданаўскі раён | 21 | 9/IX—9/X |
| 2 | Даклад Нав.-Дасьледч. Інстытуту імя Леніна аб распаўсюджваньні вынікаў досьледу на саўгасы і калгасы | НДІ і ЦБ сэкцый | Дырэктар Інстытуту т. **Гарэцкі** | Самахвалавіцкі раён | 13 | " |
| 3 | Вынікі пасылкі ў навучальныя ўстановы і работы сярод студэнцтва | Культ. Аддзел і Арг. Аддзел | **Замылка** | Горацкі раён | 21 | " |
| 4 | Беспрацоўе і мерапрыёмствы па матар'яльнай і працоўнай дапамозе | А Т Э | **Вяжэвіч** | Бяз выезду | | " |
| 5 | ........................................ | | | | | |
| | **30-га Кастрычніка (серада)** | | | | | |
| 1 | Дырэктывы па складаньню каштарысаў на 1930 год | Арг. Аддзел і Скарбнік | **Аскерка** | Бяз выезду | | 9/X—30/X |
| 2 | Аб рабоце сярод прарабаў і тэхпэрсаналу на лесараспрацоўках | Культ. Аддзел Арг. Аддзел і ЦБ Лессэкцыі | **Бушко** | Глускі раён Бабруйск. акр. | 14 | " |
| 3 | Даклад рыбна-Гаспадарчага Аддзелу НКЗ | Рыбгасп. Аддз. і АТЭ | Заг. Аддзелу | Мазырскі раён | 41 | " |
| 4 | Вынікі работ па вышуканьню калфондаў і прафработы на калфондах | Мэліарацыйная група НКЗ | Заг. Групы **Шычко** | Слукі раён | 27 | 30/IX—30/X |
| 5 | ........................................ | | | | | |

| №№ па пар. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Пленумах і Прэзыдыуме ЦП саюзу на 1929 год | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Пытаньне прапрацоўваецца ўва ўсіх рабачкомах і на агульных сходах членаў саюзу | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Якога раёну | Колькі рабачк. у раёне | У які тэрмін |
| | **20-га Лістапада (серада)** | | | | | |
| 1 | Інфармацыя аб ходзе калумоўнае кампаніі | А Т Э | **Вяжэвіч** | Бяз выезду | | 20/X—20/XI |
| 2 | 5-ці гадовы плян НКЗ | Земплян. АТЭ і сэкцыі | Старшыня Земпляну **Тамковіч** | Акр. сэкцыі, ЦП сэкцыі і па аднаму р-ну кожн. акр. | | |
| 3 | Культработа на зімовы пэрыяд | Культ. Аддзел і ЦБ сэкцый | **Кохан**, старшыня Аршанск. Акраддз. | Гарадок, Віцебск. акр. | 9 | „ |
| 4 | | | | | | |
| | **11-га Сьнежня (серада)** | | | | | |
| 1 | Вынікі выкананьня пляну і складаньне пляну на 1930 г. | Арг. Аддз. і др. аддзелы | Старшыня ЦП **Вайтэнкаў** | Бяз выезду | | 11/XI—11/XII |
| 2 | Даклад Белсельсаюзу аб рабоце ўсёй сыстэмы сельгаскаапэрацыі | Белсельсаюз, сэкцыі і АТЭ | Старшыня Белсельсаюзу **Дубіна** | | | „ |
| 3 | Вынікі вясеньняе сяўбы і мерапрыемствы да вясеньняй пасеўкампаніі | С.-гас. група НКЗ, Аграсэкцыя і АТЭ | **Адамовіч** | | | „ |
| 4 | Аб рабоце сярод спэцыялістых у зімовы час | Арг. Аддзел і ЦБ сэкцый | Старшыня Лессэкцыі **Бушко** | | | |
| 5 | Праверка каштарысу за 1929 г. і зацьверджаньне на 1930 г. | Адк. Скарбнік | **Аскерка** | Бяз выезду | | „ |
| 6 | | | | | | |
| | **25-га Сьнежня** **IV Пленум ЦП** | | | | | |
| 1 | Справаздачна-пэрспэкцыйны даклад Прэзыдыуму | Усе аддзелы | Старшыня ЦП **Вайтэнкаў** | У адным раёне кожнае акругі | | 11/XI—25/XII |
| 2 | Зацьверджаньне пляну работ на 1930 год | „ | Адк. Сакратар ЦП **Шчэмелева** | „ | | „ |
| 3 | Зацьверджаньне бюджэту саюзу на 1930 год | Адк. Скарбнік | **Аскерка** | „ | | „ |
| 4 | Аб скарыстаньні агранамічных работнікаў | ЦБ Аграсэкцыі і А Т Э | Старшыня Аграсэкцыі **Белоў** | У адным раёне кожнае акругі і на акрбюро Аграсэкцыі | | „ |
| 5 | | | | | | |

## Пастанова Прэзыдыуму ЦП саюзу Сельгаслесрабочых аб удзеле саюзу ў вясеньняй пасеўнай кампаніі.

I. Усім саюзным арганізацыям: акраддзяленьням, райкомам, рабачкомам, мясцкомам, сэкцыям спэцыялістых і кожнаму члену саюзу на працягу пэрыяду люты—чэрвень усю ўвагу згуртаваць на правядзеньні вясеньняй пасеўнай кампаніі. Наш удзел у правядзеньні гэтае кампаніі накіраваць на ажыцьцяўленьне канкрэтных задач, пастаўленых партыяй і ўрадам:

а) Павышэньне ўраджайнасьці ў саўгасах на 17 проц., у калгасах на 12 проц., у сялянскіх гаспадарках на 7 проц.

б) Пашырэньне пасеўных плошчаў у саўгасах на 6 проц., у калгасах на 10 проц., у сялянскіх гаспадарках на 3 проц.

в) Арганізацыя калектыўных аб'яднаньняў і максімальнае павялічэньне таварнасьці с/гаспадаркі.

II. Усю работу саюзу па падрыхтоўцы і правядзеньню вясеньняе пасеўнае кампаніі арганізаваць так, каб саюз дабіўся максімальнае арганізаванасьці, правільнае расстаноўкі агранамічных сіл, рацыянальнага скарыстаньня ўсіх сродкаў (насеннага матар'ялу, с/гаспадарчых машын, цягавае сілы і г. д.) з тым, каб дасягнуць поўнага выкананьня пастаўленых задач: у першую чаргу ў сацыялістычным сэктэры—саўгасах і калгасах, якія павінны весьці бядняцка-серадняцкія гаспадаркі да павышэньня ўраджайнасьці, пашырэньня пасеўных плошчаў і, галоўнае, да аб'яднаньня іх у буйныя калектыўныя гаспадаркі. Саўгасы і калгасы павінны быць прыкладам як у правядзеньні пасеўнае кампаніі ў сваіх гаспадарках, а таксама арганізаваць усямерную дапамогу акаляючаму бядняцка-серадняцкаму сялянству.

III. Пры правядзеньні пасеўнае кампаніі мінулага года ў рабоце саюзу мелі месца наступныя недахопы: навакол пасеўнае кампаніі ня была згуртавана ўвага шырокіх мас чл. саюзу; ня было прынята мер да ўцягненьня ў практычную работу ўсіх членаў саюзу і галоўным чынам спэцыялістых усіх катэгорый, несваечасова было пастаўлена пытаньне аб падрыхтоўцы насенных матар'ялаў, аб рэмонце транспарту і с.-г. машын. У агрыкультурнай рабоце саўгасаў ня было клясавае лініі, накіраванае на арганізацыю калгасаў з бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Усе гэтыя недахопы ў гэтым годзе павінны быць рашуча папярэджаны, бо дрэнная арганізацыя пасеўкампаніі ў саўгасах і калгасах, нядбайнасьць і інш. адбіваецца ў значнай меры на правядзеньні пасеўкампаніі ў сялянскіх гаспадарках.

IV. Выходзячы з гэтага, Прэзыдыум ЦП пастанаўляе правесьці наступныя мерапрыемствы:

### Па лініі саўгасаў.

1) На працягу першае паловы лютага правесьці ўва ўсіх саўгасах агульныя сходы рабочых, на якіх абгаварыць пытаньне аб выніках мінулага гаспадарчага году і аб канкрэтных задачах саўгасу на наступны год, галоўным чынам у частцы пашырэньня пасеўных плошчаў, павялічэньня ўраджайнасьці, зьніжэньня сабекаштоўнасьці, павялічэньня вытворчасьці працы і прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі і агрыкультурнае работы.

2) На вытворчых нарадах да 15/III-г. г. абавязкова прапрацаваць наступныя практычныя пытаньні, па якіх вынесьці канкрэтныя пастановы:

а) Мерапрыемствы па пашырэньню пасеўных плошчаў (за лік чаго пашырыць, якім чынам і ў якім разьмеры).

б) Мерапрыемствы па ўздыму ўраджайнасьці ў саўгасе (загатоўка гатунковага насеньня, угнаеньне і яго скарыстаньне—торф, попел, гной, жыжа, адкіды тэхнічных прадпрыемстваў, штучнае ўгнаеньне, люпін, вызначыўшы, у якіх разьмерах, к якому часу і як скарыстаць пералічаныя элемэнты ўгнаеньня).

в) Мерапрыемствы па палепшаньню апрацоўкі глебы (падрыхтоўка інвэнтара, машын, транспарта цягавае сілы і інш.).

г) Мерапрыемствы па павышэньню вытворчасьці і якасьці працы (нормы выпрацоўкі, пераход на зьдзельшчыну, прэміраваньне, арганізацыя працы і рацыянальнае скарыстаньне рабочае сілы).

д) Меры да павышэньня прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі (вырашэньне кармавога пытаньня, палепшаньне якасьці харчоў, сілосы, скарыстаньне пасьбішчаў, вучот прадукцыйнасьці і нарміраваньне).

е) Меры па палепшаньню сенажацяў (выкарчоўка, зьнішчэньне куп'я і кустарнікаў, каранныя і павярхоўныя культуртэхнічныя мерапрыемствы).

ж) Агрыкультурная работа саўгасу ў час пасеўнае кампаніі.

3) У мэтах павышэньня вытворча-тэхнічнай кваліфікацыі рабочых—поўнасьцю выканаць дырэктывы аб арганізацыі масавых вытворчых курсаў, палепшыць якасьць работы гэтых курсаў і арганізаваць экскурсіі рабочых на бліжэйшыя вопытна-дасьледчыя ўстановы.

4) Скласьці каляндарны плян мерапрыемстваў па правядзеньню пасеўнае кампаніі.

5) Белсельтрэсту прыняць меры да сваечасовае выплаты зарплаты ў саўгасах, ліквідаваўшы маючуюся запазычанасьць, а таксама да сваечасовага забесьпячэньня рабочых хлебам у выпадках яго недахопу.

6) Арганізаваць шырокую пераклічку на лепшую падрыхтоўку і правядзеньне пасеўкампаніі ў саўгасах праз друк (Бел. Батрак), радыё-газэту і шляхам арганізацыі мітынгаў-пераклічкі паміж суседнімі саўгасамі і правесьці конкурс на лепшае правядзеньне пасеўкампаніі, для чаго Сэльтрэсту выдзеліць сродкі для прэміраваньня за найбольшыя дасягненьні ў галіне павышэньня ўраджайнасьці, уцягнуўшы ў гэты конкурс шырокія масы членаў саюзу.

### Па лініі калгасаў.

Саюзныя арганізацыі, галоўным чынам рабочыя калектывы саўгасаў і сэкцыі спэцыялістых, павінны ўсямерна садзейнічаць правядзеньню наступнага:

1) Арганізацыя агрыкультурнага шэфства над новымі, а таксама яшчэ эканамічна не акрэпшымі калгасамі, аказваючы дапамогу на пэўных дагаворных пачатках.

2) Дапамагчы ўстанавіць правільныя севазвароты і даць паказаньні па пытаньнях апрацоўкі глебы і замацаваньня лепшых гатункаў паасобных культур.

3) Арганізаваць дапамогу гатунковым насеньнем, шляхам абмену і ачысткі, с-гас. машынамі і цягавай сілай пры наяўнасьці ў гэтым патрэбнасьці.

4) Узяць на сябе ініцыятыву і арганізаваць у калгасах на агульных сходах, альбо ў с-гас. гурткох прапрацоўку тыхжа пытаньняў, якія пастаўлены ў праграму работы вытворчых нарад (глядзі пункт „2“ разьдзелу аб саўгасах).

5) Лепшыя вынікі і прыклады гаспадарчае работы саўгасаў, асабліва ў галіне паляводзтва, жывёлагадоўлі перанесьці і замацаваць у калгасах.

6) Аграпрацаўнікі, абслугоўвачыя калгасы, а таксама сялянскія гаспадаркі павінны ў сваёй рабоце трымаць цесную сувязь з саўгасамі і дасьледчымі ўстановамі з тым, каб лепшыя вынікі работы апошніх прымяніць на палёх калгасаў і бядняцка - серадняцкіх гаспадарак. Асаблівую ўвагу ўдзяліць пытаньням арганізацыі працы ў калгасах.

### Па лініі дапамогі бядняцка-серадняцкім сялянскім гаспадаркам.

1) Усім саюзным арганізацыям, культустановам, членам саюзу праводзіць сярод працоўнага сялянства шырокае растлумачэньне задач, пастаўленых партыяй і ўрадам у галіне павышэньня ўраджайнасьці, пашырэньня пасеўных плошчаў і арганізацыі калгасаў.

2) Агрыкультурная работа саўгасаў павінна праводзіцца ў напрамку ўзьдзейнічаньня на калектывізацыю бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак, садзейнічаньня павышэньню ўраджайнасьці, павялічэньня таварнасьці і непасрэдная арганізацыя калгасаў і вытворчых аб'ядналньняў і аказаньня ім арганізацыйнае і агранамічнае дапамогі на дагаворных пачатках.

3) Арганізаваць і правясьці ў саўгасах вытворчыя канфэрэнцыі бядняцка-серадняцкага сялянства вакольных вёсак, на якіх абгаварыць пытаньні, зьвязаныя з павышэньнем ураджайнасьці, як-та: падрыхтоўка насенных матар'ялаў, пытаньні ўгнаеньня, апрацоўкі глебы, пераход на шматпольле і др., прыцягваючы на гэтыя канфэрэнцыі сялян-дасьледчыкаў і ўсіх рабочых, работніц і спэцыялістых саўгасаў.

4) Арганізаваць шэфства над усімі бядняцка-серадніцкімі гаспадаркамі аднэй з бліжэйшых вёсак, альбо пасёлкаў з боку саўгасаў і падшэфных саўгасу калгасаў.

5) Арганізаваць у саўгасах і на агрпунктах агранамічную кансультацыю.

6) Райкомам і райбюро сэкцый спэцыялістых практыкаваць прымацаваньне спэцыялістых да вызначаных вёсак для правядзеньня канкрэтных агрыкультурных мерапрыемстваў.

7) Правесьці раённыя курсы, нарады грамадзкіх пастухоў у мэтах палепшаньня іх кваліфікацыі. Культаддзелу ЦП у тыднёвы тэрмін распрацаваць і разаслаць на месцы праграму гэтых курсаў.

V. ЦБ сэкцый у трохдзённы тэрмін распрацаваць практычныя мерапрыемствы па ўдзелу ў падрыхтоўцы і правядзеньні пасеўнае кампаніі ўсіх катэгорый спэцыялістых. Акруговым і раённым бюро на падставе вызначаных ЦБ мерапрыемстваў даць кожнаму спэцыялістаму канкрэтныя заданьні па ўдзелу ў правядзеньні пасеўнае кампаніі.

VI. Даручыць рэдакцыі газэты „Бел. Батрак" і радыё-газэце арганізаваць шырокае асьвятленьне падрыхтоўкі і правядзеньне пасеўнае кампаніі, і арганізаваць на старонках „Бел. Батрака" кансультацыю для ўсіх катэгорый членаў саюзу і спэцыялістых па ўдзелу іх у пасеўнай кампаніі (напрыклад—якую работу можа правесьці лясьнічы, аб'езд-чык, батрак і г. д.). У мэтах прыцягненьня ўвагі баткораў і сьценкораў да пасеўнае кампаніі, РК правесьці раённыя нарады рабкораў, баткораў і сьценкораў, абгаварыўшы на нарадах пытаньне аб задачах рабкораў і насьценгазэт у пасеўнай кампаніі.

VII. Райкомам і Акраддзяленьням арганізаваць сыстэматычны нагляд і праверку выкананьня гэтае пастановы Прэзыдыуму. Ужываючы мэтад жывога інструктаваньня, практычнае дапамогі, у прыватнасьці РК павінны да 15-III праінструктаваць усе рабачкомы саўгасаў па пытаньнях пасеўнае кампаніі.

---

## Як арганізаваць вайсковы гурток і як кіраваць яго працай [1]).

Уся сыстэма абароны краіны ў сучасны час заснавана на тым, каб у дапамогу Чырвонае Арміі прыцягнуць у выпадку неабходнасьці шырокія пласты працоўных мас. Вайна ў будучым—гэта будзе ня толькі вайна армій, але і вайна ўсяго насельніцтва, маблізацыя ўсяе гаспадаркі краіны. Пагэтаму ваенізацыя працоўных, вайсковая прапаганда, ваенна-хэмічная пісьменнасьць зьяўляюцца аднэй з самых істотных задач сёньняшнага дню. Чым больш мы будзем пісьменнымі ў ваеннай справе, тым лягчэй нам будзе ў будучых бітвах, тым менш у нас будзе ахвяр. А для гэтага патрэбна вучыцца; і ня толькі гаварыць аб ваеннай небясьпецы, ня только пісаць артыкулы, але і практычна працаваць. Адным з практычных відаў ваеннай падрыхтоўкі зьяўляецца сёньня — „гурток ваенных ведаў". Існуюць гурткі ваенных ведаў 1-й ступені для зусім незнаёмых з вайсковаю справаю альбо зусім мала знаёмых і гурткі ІІ-й ступені для асоб, якія ўжо ведаюць ваенную справу, але якім

[1]) Артыкул з радыё-газэты „Беларускі Батрак" № 7, ад 13-ІІ—1929 г.

гэтыя веды неабходна пашырыць і паглыбіць.

Вайсковыя гурткі арганізоўваюцца ячэйкамі Асоавіяхіму, згодна „Палажэньня аб вайсковых гуртках", якое надрукавана ў спэцыяльным зборніку палажэньняў і інструкцый арганізацыям Асоавіяхіму БССР, у выданьні 1928 году, на старонцы 24-ай (цана гэтага зборніку 12 кап.) Паўтараем — „Палажэнане аб вайсковых гуртках, надрукавана . . . Гэтае палажэньне павінна быць у кожнай ячэйцы.

Гурток ваенных ведаў можа быць з 8-мі, 10-ці, 15-ці і да 40 чалавек. Калі гурток вялікі па колькасьці, дык ён падзяляецца на групы ў 10—12 чалавек кожная.

У кожным гуртку павінен быць адзін кіраўнік з начскладу запасу альбо, дзе гэта магчыма, з кадравага каманднага складу. Гэты кіраўнік павінен быць прызначаны Раённым Саветам Асоавіяхіму.

Вайсковы гурток павінен займацца па праграме, якая зацьверджана Асоавіяхімам для І-й альбо для ІІ-й ступені, у залежнасьці ад падрыхтоўкі членаў гуртку.

Праграмы вайсковых гурткоў можна здабыць у кожным Раённым і Акруговым Савеце Асоавіяхіму. Можна здабыць і ў Аддзеле Забесьпячэньня Цэнтральнага Савету. Каштуюць яны 10—13 кап. Ува ўсякім разе, гэтыя праграмы павінны мець кожная ячэйка Асоавіяхіму.

Батрацтва, сельска-гаспадарчыя і лясныя рабочыя павінны абавязкова навучацца ваеннай справе ў гуртках пры ячэйках Асоавіяхіму. Але бяда ў тым, што ня ўсюды ёсьць гэтыя ячэйкі і пагэтаму трэба зараз-жа пачаць з таго, каб пры кожным сельрабачкоме і рабачкоме безадкладна арганізаваць ячэйку Асоавіяхіму, хоць-бы невялічкую, на першы час з 7—10 чалавек, павольна вярбуючы ў яе батракоў, сельгаслесрабочых, сялян-беднякоў, калгасьнікаў і г. д., а ўжо, арганізаваўшы ячэйку, мажліва арганізаваць і вайсковы гурток. Даставіць усё неабходнае для ячэйкі: падручнікі, праграмы і г. д. абавязан паклапаціцца Райсавет альбо Акруговы Савет Асоавіяхіму, а калі апошнія марудзяць, трэба зьвяртацца непасрэдна да Цэнтральнага Савету Белаасоавіяхіму ў Менск.

Трэба таксама паклапаціцца, каб гурток здабыў і агнястрэльнае аружжа. Бязумоўна, 3-х лінейную вінтоўку нельга здабыць, але за тое дробна-каліберную вінтоўку і патроны да яе можна заўсёды здабыць у Акруговым Савеце Асоавіяхіму альбо ў Аддзеле Забесьпячэньня Цэнтральнага Савету.

Заняткі ў гуртках трэба праводзіць як можна жывей, маючы грунтоўную ўстаноўкаю, галоўным чынам, самадзейнасьць гурткоўцаў. Менш дакладаў альбо чытак і больш пытаньняў і адказаў! Больш наглядных плякатаў, якія шмат дапамагаюць пры праходжаньня праграмы.

Па стралковай справе, пасьля сканчэньня курсу стральбы, трэба арганізоўваць стралковыя спаборніцтвы.

Вельмі пажадана, каб на занятках вайсковага гуртку часьцей успаміналіся гэроічныя эпізоды з баявых дасягненьняў нашае Чырвонае Арміі. Член гуртка ў выніку вайсковай вучобы павінен сьвядома адчуваць сваю сувязь з Чырвонай Арміяй і павінен ганарыцца яе перамогамі.

На гэтую тэму можна было-б параіць шмат чаго, але час радыё-перадачы не дае нам гэтае магчымасьці. Паўтараем— дакладныя паказаньні, як кіраваць працай гуртка, вы знойдзеце ў праграмах Асоавіяхіму для вайсковых гурткоў І-ай і ІІ-ой ступені.

Па ўсіх пытаньнях праграмы і палажэньняў, якія цяжка будзе зразумець, зьвяртайцеся за растлумачэньнем у мясцовыя органы Асоавіяхіму.

Трэба толькі мець жаданьне ўзмацняць абарону сваёй Рабоча-Сялянскай краіны, а пры гэтым жаданьні можна багата чаго зрабіць.

Старшыня Цэнтральнага
Савету Беласоавіяхіму **Дрылёнак.**

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.**

Адказны рэдактар— **Вайтэнкаў.**

Намесьнік яго: **Замылка, Калядзенка.**

Менск, друкарня БДВ. Зак. № 1626. У ліку 1.200 экз. Галоўлітбел № 86